Годъ III—1914. Люты 20-я кніжка.




## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр.

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Адрэс рэдакціі: Мінск Александроуская 25.

Мінск. Электро-Друкарня Н. Нахумава,—тэл № 524

Год III—1914. Люты 20-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



# Пладазьмен.

## Праект № 2.

Двор Янковічы з засьценкам Пакаі ад мястэчка Ганушышкі зімой—5 вёрст, у летку—10. Да станціі Рудзішкі (другая станція ад Вільні)—10 вёрст.

Усяго ворнаго поля—155 дзесянцін і 3 дзесянціны сенажаці. Грунт на вогул пешчаны; пясок укідаецца розны: шэры, жоўты, мейсцам пры гліне, жвіраваты; жвір. Каменьняў, хоць ня ўсюды, шмат: мейсцам—камень пры камені; ёсьць і пні ешчэ ня выкарчованые.

Земля скрось запушчэна: дзе пясок—і там ня выраблена, а на лепшых кавалках—разросься пырнік. Пятая часьць зямлі зусім пустыня, завесьці там канюшыны нельга, дык адлічыўшы яе і ешчэ некалькі дзесянцін каля самага дому, каторые ідуць пад агародніну, раннюю бульбу і крыху пад мешанку,—застанецца 120 дзесянцін грунту.

Гаспадарка вельмі запушчэна: трохпалёўка і тая без ніякога ладу. Сеецца часьць дрэннаго жыта, а то больш грэчка і авес. Лубіну і сэрадэлі зусім ня сеецца.

Млечная гаспадарка вядзецца надта слаба: кароў 40 штук дойных, але малые, дрэнные і тые ў пахце—па 20 рублёў на год ад штукі разам с целятамі.

Зважаючы на мейсцовые і эканамічные варункі, трэба разважна ўзяцца за паправу ўсей гаспадаркі.

1. Насамперад ачысьціць поле ад каменьнеў і пнёў прынамсі на столькі, каб можна было працаваць машынамі: двускібовымі плугамі, спранжыновымі баронамі, касяркай, жніваркай і т. п.

2. Найбольшую ўвагу трэба зьвярнуць на млечную гаспадарку, бо, збываючы млечнае ў Вільню, можна мець вялікі даход.

Трэба завесьці лепшы гатунак кароў; мест 40—паставіць 60 штук і даць ім добрую пашу і пажыўны корм.

3. Садзіць больш бульбы. Тады і поле бардзей вырабіцца добра і будзе падмога ў корме для кароў.

4. С паміж засеваў найбольш налегаць на жыто.

5. Завесьці рознае птаство (ёсьць блізка возеро), сьвіньні; гадаваць насеньне траў і т. п., бо і з гэтаго, жывучы недалёка гораду, можна мець не малы даход.

Хочучы давесьці да парадку палёвую гаспадарку, і мець з яе карысьць, трэба перайсьці на пладазьмен. Заводзячы яго, трэба ешчэ узяць пад увагу, што паша для скаціны хоць і ёсьць, але далекавата яна і то пасьля выру̂бленаго лесу, дык завалена.

Парадак рабіць гэткі. Усю зямлю разбіць на дзьве часьці: на 120-ці дзесянцінах лепшай зямлі завесьці васьміпалёвы пладазьмен, а на 30-ці дзес горшаго грунту пакінуць—зьмяніўшы, разумеецца, парадак сяўбы,—трохпалёўку (пяць дзесянцін астаецца пры самым двар̂э на агародніну і т п).

Пладазьмен на 120-ці дзрсяцінах зрабіць вось які.

**1-е поле**. *Папар*. Часьць папару засеяць на гнаі мешанкай на зялёны корм; другую часьць—лубінам і загараць пасьля яго пад жыто. Перад сяўбой жыта там, дзе была кошанка, даць ешчэ супарфосфату.

**2-е поле.** *Жыто.* С самай вясны ў жыто ўсеяць сэрадэлю, а ў восень яе заараць.

**3-е поле.** *Бульба.* Пасьля сэрадэлі бульбу садзіць бяз гною.

**4-е поле.** *Авес.* Пад авес даць скрось гною і падсеяць мешанкай, лічучы на дзесянціну—40 ф. чырвонай канюшыны, 10 ф. белай і 10 ф. цімафейкі.

**5-е поле.** *Канюшына с цімафейкай.* Першы пакос павінен быць зроблены, як толькі мешанка возьмецца на цьвет, тады ешчэ пад восень можна ўзяць добрую атаву.

**6-е поле.** *Мешанка.* Зьняць толькі адзін пакос, а пасьля пусьціць пад пашу.

**7-е поле.** *Паша.* Пасьвіць да поў лета, а пасьля поле прырыхтаваць пад жыто і даць пад яго каініту с тамасоўкай.

**8-е поле.** *Жыто.* З лёду падсеяць сэрадэляй, каторая пад восень пойдзе на пашу.

Гэткім парадкам усіх засеваў выйдзе ў нас:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | поля | жыта | — 30 дзес. |
| 1 | поле | бульбы | — 15 ,, |
| 1 | ,, | ярыны | — 15 ,, |
| 2 | поля | мешанкі | — 30 ,, |
| 1 | поле | пашы | — 15 ,, |
| 1 | ,, | папару | — 15 ,, |
| 8 п. | | ўсяго разам | 120 дзес. |

На 30-ці дзесянцінах горшаго грунту, каторые мы аддзялілі, парадак завесьці гэткі.

**1-е поле.** *Папар.* У папары пасеяць лубін, або грэчку і ў восень прыараць іх пад жыто.

**2-е поле.** *Жыто.* Жыта можэ быць часьць азімаго, а часьць ярыцы; ўсё гэта падсеяць сэрадэляй. Кавалак яе ўзяць пад пашу, а рэшту прыараць на зіму.

**2-е поле.** *Ярына.* Пасеяць грэчку, або сачэвіцу, чы сэрадэлю на супарфосфаце, або касьцяной муцэ.

Як толькі завядзецца больш гною, завезьці ім адзін палетак.

Тут, значыцца, будзем, мець: жыта—10 дзесянцін і ярыны—10 дзес.

А ўсіх засеваў у Янковічах буазе:

| | | |
|---|---|---|
| жыта | —40 | дзесянцін |
| ярыны | —25 | ,, |
| бульбы | —12 | ,, |

а рэшта пойдзе на корм.

На пяці дзесянцінах, каторые асталіся пры самым двары, сеяць апрача агародніны на свой ужытак, кормные буракі, моркву, рэпу і т. п., а так сама мешанкі на зялёны корм, гарчыцу, жыта маёвае і т. п.

**Ю. Г.**

# Як паправіць сенажаці.

Найменш увагі ў нас гаспадары зьвертаюць на сенажаці: ніхто нават не падумае, каб як колечы палепшыць свой сенакос. Калі ёсьць кусты, чы каменьні; ёсьць купіны, чы балоты—то што ж з імі, кажуць, зробіш—ніхай будуць. А тым часам пры цяперашніх варунках гаспадаркі, калі глаўная падмога яе—млечная гаспадарка што раз болей і болей павялічываецца, гаспадары нашы ўсю сваю ўвагу павінны зьвярнуць на паляпшэньне і павялічэньне корму і дзеля гэтаго перш—на—перш трэба ўзяцца за тое багацьце, каторае ў нас валяецца запушчаным—за свае сенажаці.

Найбольш глумім і псуём мы свае сенажаці няўмелай пашай скаціны. Нельга пушчаць жывёлы з вясны на лагі, пакуль яны добра не абсохнуць і ня стужэюць, бо інакш зямля грузіцца і пасьля з гэтаго робяцца купіны.

Так сама нельга з вясны да позна пасьвіць скаціны нават па абсохшых сенажацях, бо яна тады вышуківае і выгрызае толькі смашнейшые і лепшые травы, а абмінае горшые і шкод-

ные. Калі-ж запусьцім сенажаць ужо на рост, то пакуль адскочаць і добра узрастуць лепшые травы, горшые і шкодкые, каторых скаціна не зачапіла, усьпеюць ужо адцьвісьці, а насеньне іх высыпіцца. Гэткім парадкам мы самі будзем памагаць і спрыяць што раз большаму разросту дзікіх, нягодных траў. Найлепш зробім, калі на сенажаці з лёду зусім ня пусьцім скаціны.

Па скошанай сенажаці—хоць бы сабе і ў восень—пільнавацца, каб ніколі ня пушчаць скаціны падчас макраты, бо гэта заўсёды псуе сенажаць.

Бяручыся за паправу сваіх лагоў, насамперад трэба ачысьціць іх ад кустоў, купін і каменьняў. Дзе зацягівае балото, ніякай папраўы быць ня можэ, пакуль яе не абсушыш. Абсушыаацъ найлепш дрэнажамі (глінянымі трубкамі, каторые, закопаные ў зямлю, сьцягіваюць ваду), але гэта каштоўна; дык чыя ня змога, трэба хоць канавы па спаду пакапаць. Капаючы канавы, трэба бакі іх даваць дужа адлогімі,—тады яны—бакі гэтые абрастаюць травой і гэткім парадкам шмат прыспораць сена, а да таго—не абсовываюцца.

Калі сенажаць добра ўжо падсушэна, тады трэба яе пабаранаваць. Рабіць гэта можна і ў восені, а ешчэ лепш вясной і то два разы. Першы раз—як толькі сойдзе сьнег і земля аттане на вяршкі два—выбаранаваць да чарна; другі раз—як земля зусім ужо адойдзе і абсохне,—тады барана пасьцягівае мох, каторы надзёрлі пры першым баранаваньні, і яго трэба пазвозіць.

Барануюць сенажаці асобнымі для гэтаго зробленымі баронамі (прадаюцца ў сельск.-гаспадарск. складах), але хто мае ў сябе спранжыновые бароны, то толькі прыдзецца дакупіць да іх (так сама ў с. х. складах) лапкі такіе, каторые прышрубовываюцца да спранжыноўкі (каштуе адна лапка капеяк 35) і вельмі добра імі выдзіраецца мох і не запіхаюцца, бо спранжыноўка пры рабоце дрогаецца і мох сам выпадае.

Пасьля гэтых работ—т. е. асушкі і баранаваньня—сенажаць сама сабой папраўляецца: мест даўнейшых балотных і дзікіх траў, паказываюцца матыльковые і іншые лепшые травы. Каб прысьпяшыць паправу такой сенажаці, ешчэ лепш зробім, калі пасьля першаго баранаваньня, сабраўшы мох, падсеем мешанкай розных траў і забаронуем іх; наклад гэты с першаго ўжо году—бо ў тую-ж восьнь дасьць даход, бо прыспорыць шмат добраго сена.

Такіе мешанкі траў прадаюцца ўжо гатовымі па насенных складах—т. е. зьмешаные, але іх ніколі не варта купляць, бо хто іх разьбярэ чаго там намешана. А трэба ў пэўным толькі складзе купляць самому насеньне кожнай травы па асобку, а тады ўжо, самому зьмешаўшы, разсеваць па сенажацях.

Каб паказаць колькі, якіх і на якую зямлю трэба траў, даём табліцу.

| НАЗВАНЬНЕ ТРАЎ. | На гліністую, вільгатнаватую, перагноеную зямлю. | На глінівстую макраватую зямлю. | На вапенную зямлю. | На ляхчэйшую, сухаватую зямлю. |
|---|---|---|---|---|
| | Колькі фунтаў на дзесянціну. | | | |
| Грабяніца . . | 16 | — | — | — |
| Авес залацісты . . | 6 | — | 8 | — |
| Райграс англіцкі . | 12 | 14 | — | — |
| „ францускі . | 20 | — | 16 | 16 |
| „ італьскі . | 8 | 12 | 10 | — |
| Яжоўка зборная . | 16 | 14 | 12 | 16 |
| Цімафейка . . | 10 | 10 | 10 | — |
| Лісі хвост. . . | 8 | — | — | — |
| Выкліна лугавая. . | 10 | — | 12 | 12 |
| „ шорсткая . | — | 8 | — | — |
| Мятліца разлож. . | — | 8 | — | — |
| „ звычайная . | — | — | — | 8 |
| Мазга трасьняковая. | — | 16 | — | — |
| Касьцёр лугавы . | 10 | — | — | — |
| „ трасьняковы. | — | 32 | — | — |
| „ чырвоны . | — | — | 16 | 16 |
| Стокалоска бязвосат. | — | — | 16 | 16 |
| Пахучы каласок . | — | — | 2 | 2 |
| Канюшын. чырвоная | 10 | — | — | — |
| „ белая . | 6 | 6 | 4 | 16 |
| Люцэрна хмялёвая . | — | — | 8 | 12 |
| Пералёт . . | — | — | 8 | 12 |
| Гарошак лугавы . | 2 | 2 | — | — |

Насеньне гэтых розных траў дарагавата, праўда, каштуюць, але вельмі правяць сам смак і пажыўнасьць сена.

Некаторые гаспадары разсяюць па сваік сенажацях, чы гумнішчах патруху, якая застаецца с пад тарпы сена, чы ад тру-

шанкі. Рабіць гэтаго не варта: там заўсёды бывае больш насеньня дзікіх траў, чым добрых. Але за тое вельмі карыстна было-б гадаваць на сваю патрэбу насеньне лепшых траў у сябе і тады насеньне гэтае прынамсі было-б пэўнае. На пачатак такое насеньне можна зьбіраць па узьмешках і па лепшых кавалках сенажаці.

Але хоць якім добрым насеньнем мы ня сеялі-б, хоць і будзе знак на сенажаці, але поўнаго ўраджаю не зьбяром, калі сам грунт будзе выпаласканы, пусты. Гэта і ня дзіва. Здаўна ў нас гэтак ужо вядзецца, што корм с сенажацеў зьбіраць—зьбіраем, скормліваем яго скацінай, або ешчэ горш—прадаём, а які і колькі зьбярэцца гною—вывозім яго на агароды, пад сад, урэшце на поле, а ніхто не падумае нават, што і трава, як кожная іншая расьліна, так сама, каб добра, буйна расьці, патрабуе корму, пажывы.

Німа чаго дзівіцца, што нашы сенажаці з году ў год даюць што раз меней сена, бо мы прывыклі з давен даўна толькі з іх браць, але нічога не даваць.

Дык вось, каб мець праўдзівую карысьць с сенажацеў і вярнуць даўнейшые ўраджаі, павінны мы даць ім падмогу, сілу, як і кожнаму іншаму полю, з гною.

Як і чым гнаіць сенажаць. На гэта ёсьць розные спосабы.

У каго хапае гною с пад жывёлы і ён ня лішне саломісты, драбнаваты—можна вывозіць гэткі гной на сенажаці, стараючыся трафіць пад дождж і усьлед яго растрэсьці так сама акуратна, роўненька, як і на полі. Як толькі яго дождж пройме. а пасьля астаўшаяся салома высахне, зграбіць усё зьверху і ізноў можна гэтым падсьцілаць у хлявох, каб нацягнуло гноем. Спосаб гэты толькі тым нявыгодны, што шмат гэты гной, лежучы на вярху, траціць сваей сілы дарма, але ўсё-ж ткі пасьля яго карысьць будзе значная.

Найлепшым жэ гноем для сенажацеў—кампост (розные перагніўшые ў кучы адпадкі пры гаспадарцы). Вазіць яго на сенажаць можна ў восень, чы вясной, толькі трэба высьцерагацца, каб не папасьці пад паводкі, бо вада можэ пазносіць яго. На дзесянціну—кампосту ідзе пудоў 600—900, зважаючы на яго тлустасьць. Хочучы мець вялікіе ўкосы, трэба кампаставаць сенажаць што 3—4 гады.

Дзе пры аборах пароблены гнаёўні, чы так спады якіе колечы, куды зьбіраецца гнаёўка, то гэта так сама адзін з найлепшых спосабоў паправіць свае сенажаці. Гнаёўка—разбаўляецца вадой: на адно вядро самой жышкі бярэцца 5—10 вядзер вады і гэтым паліваць сенажаці. На адну дзесянціну трэба бочак 80—120 (па 40 ведзер кожная). Паліваць можна з вясны, або пасьля першай касьбы; але ўся штука ў тым, каб як найраўней яе разліць па сенажаці. Дзеля гэтаго робяць нават асобную прыладу: у дне, чы з боку бочкі пракручываюць дзірачкі, пад іх прыладжываюць дошку, на каторай пароблены равочкі ва ўсе

бакі; вось гнаёўка праз дзірачкі трапляе на дошку і там-гэтым-равочкамі разліваецца і распырсківаецца скрось роўна па сенаі жаці.

Ешчэ адным з важнейшых гнаёў для сенажацей, каторы ў нас найчасьцей амаль не дарма прападае—гэта попял. Разсеваць яго можна з восені, чы вясной падчас ціхай, сухой пагоды. На дзесянціну садзіцца яго 160—200 пудоў. Пасьля попялу сенажаць вельмі правіцца: мох сам па сабе прападае і сівец, калі дзе ёсьць, так сама гіне, а узрастаюць салодкіе і гарашковые травы.

Апрача гэтых дамовых спосабоў гнаеньня сенажацеў, вялізарнае значэньне для узросту траў маюць фабрычные гнаі—парашкі. Але каб дарма грошы ня выкінуць, не варта зразу рызыкаваць, купляючы на большые абшары, ня выпрабаваўшы, як яны будуць памагаць, на меншых кавалачках. Пробы гэткіе рабіць ня трудна. Адмерыць у некалькіх мейсцах па розных гатунках сенажацеў невялічкіе кавалкі—па сажнёў 60, або 120 квадратовых (60 кв. саж. гэта будзе саракавая доля дзесянціны, а 120—дваццатая) і на кожным з іх пасеяць іншы гной, разлічаючы павэдлуг дзесянціны, колькіх патрэба на такі кавалачак. Калі сенакос пасьпее, пробны кавалак скасіць асобна, а побач з ім скасіць, адмерыўшы, гэткі самы кавалак нягнояны. Вось і будзе знаць розніца; а для акуратнаго падрахунку адважыць сена з аднаго і другога кавалка; тады розніца пакажэ, чы варта сеяць купляные парашкі, чы не.

За граніцай, напрыклад у Нямеччыне, высеваюць фабрычных парашкоў на сенажаці страшэнна многа, але там іншы рахунак: самые парашкі куды таней каштуюць, а корм—трава шмат болей цэніцца, чым тутака.

У нас, лічучы на дзесянціну, каініту высеваюць 24—30 пудоў. Разсеваць яго трэба вясной.

Калійнай солі (так сама разсяецца вясной) даюць 12—15 пуд. на дзесянціну.

Тамасшлаку бярэцца 18—24 пуды на дзесянціну; разсеваць яго можна на вясну, або і ў восень.

Заквашэные лагі перш трэба вывапнаваць. Бярэцца 90—120 пуд. сьвежай вапны і развозяць яе кучкамі па сенажаці, дзе яна, палежаўшы, сама па сабе адгасіцца, і калі ўжо пачне добра разсыпацца, як найраўней разсеяць яе. У восень на такіх лагох добра разсыпаць 30—40 пуд. на дзесянціну фасфорнай мукі.

Ну лагох з вялізарным мохам і глыбокім пластам торфу—сама толькі асушка і баранаваньне не паможэ—там ужо трэба брацца іначэй да работы, хочучы зрабіць добрую сенажаць, дык апісываць усю гэту працу на гэты раз праз лад заняло-б шмат мейсца.

**Варанец.** **Скіба.**

# Лубін на цяжкіх грунтах.

За апошніе гады нашы селяне пачалі шмат сеяць лубіну на зялёны гной. У некаторых вёсках большая палова гаспадароў адсяюць часьць свайго папару лубінам. Што нашы селяне зразумелі ўрэшце гэтак важную карысьць у сельскай гаспадарцы, якую дае лубін—вельмі добра. Ня добра толькі тое, што гэтые гаспадары з году ў год плацяць повялікі падатак гандляром за насеньне лубіну, калі можна не выкідаць па 5—6 злотых за кожны пудзік лубіну, а выгадаваць і дахаваць да пары насеньне сваё ня толькі на лёхкіх, але і на цяжэйшых грунтах.

Найважнейшая рэч, каб земля пад лубін была прырыхтована і выраблена, як пух; лубін ня любіць, калі яго пасеяць у цьвёрдую, заросшую пырнікам ральлю.

С сяўбой ніколі не варта сьпешацца: лубін укінуты у гразкую і халодную зямлю ня скора абходзіць, а калі выскачуць вясновые прымарозкі, то насеньня шмат збуцьвее ў зямлі і прападзе, а каторае зерне і абойдзе—будзе зажаўцейшаеся сядзець пры зямлі і мест добраго лубіну—будуць толькі васількі і сьвірэпка. Дык лепш ужо спусьціць тыдні 2—3, пакуль земля не падсохне і не абагрэецца, тады ўраджай будзе пэўнейшы.

Насеньне лубіну—злашча на цяжэйшых землях—трэба сеяць густа—па пудоў 18—20 на дзесянціну. Гусьцей пасеяны лубін, як вырасьце, то цыбукі яго з ісподу падголяцца, а струкі будуць на вярху, дык бардзей дойдуць, а рэдка пасеяны—будзе кусьціцца, пушчаць у бакі гукі да познай восені і зьмерзне зялёны.

Лубін дасьпевае, як вядома, ня ўвесь разам, вось тут і пачынаецца мука нашых селянаў: поўзаюць яны па полі і абіраюць дасьпеўшые стручочкі; праз нейкі час ізноў бяруцца за гэту работу, а пасьля ешчэ і ешчэ, а ўсё-ж такі у канцы канцоў большая палова лубіну зазімуе на полі. З гэткай работы, разумеецца, карысьць не вялікая: на абіраньне часу шмат трацяць, ды і насеньня многа прападае.

Хочучы сабраць як найбольш і добраго насеньня лубіну, трэба да гэтай работы брацца зусім іначэй. Пад канец Серпеня месяца, або крыху пазьней, як толькі лубін ужо трохі пабляднее, бытцам хто попялам яго пасыпаў, то гэта і будзе пазнакай, што падыйшла пара брацца за жніво. Хто мае жнівярку, то можна жнівяркай, а не то серпамі, але, ня чэкаючы далей, трэба лубін зжаць. Зжаты—ўсьлед саставіць у невялікіе кучкі, і то так, каб камлі каля зямлі былі разстаўлены шмат шырэй, чым вярхі. Гэта робіцца дзеля таго, што як пачне лубін падсыхаць, злашча пасьля дажджу, або расы, то шмат струкоў яго трэскаецца і зерне высыпаецца; калі-ж кучка знізу разстаўлена шырока, то насеньне гэта не на зямлю пападзе, а астанецца ў сярэдзіне кучкі.

Звозячы лубін с поля, трэба на панарад, чы драбіну падаслаць вялікую посьцілку, каб лубін ня высыпаўся на зямлю.

Лубін, састаўлены ў кучкі, хоць быў зжаты і зеленаваты—дойдзе, высахне і з яго будзе найлепшае насеньне. Калі-ж восень бывае мокрая і акуратна дасушыцца лубіну на полі трудна, то можна зьвесці яго і крыху сыраваты, але складаючы гэткі лубін у гумне, чы у стырту на дварэ, трэба яго канешна перэкладаць аржаной сухой саломай (пласты перэкладаюцца па поў аршына таўсьціні).

Праз усю зіму лубін павінен лежаць не малочаны, бо інакш насеньне яго можэ сплеснець; а брацца за малацьбу найлепей ажно ў марцы месяцы.

Каму прыходзіцца купляць насеньне лубіну, павінен быць вельмі асьцярожным, бо часта на погляд зерне паказывае добра, а тымчасам яго прыхапіў на пні мораз. Каб пазнаць, чы насеньне добрае, трэба неколькі каліў раскусіць: калі сярэдзіна жоўтая, як жаўток у яйку—то сьмела можна купляць, каліж—белае, або прыплесьніўшы—то і дарма не варта браць.

На астатак ешчэ успомню, як лепш заворываць лубін, каб ня тырчэў ён чуць ня трэцьцюю часьць с пад скібы, як гэта найчасьцей здараецца.

Некаторые гаспадары раюць перад воркай прайсьці па лубіне з бараной, чы прыкачаць яго вальцам, але гэга ня зусім памагае.

Найлепшы спосаб заорываць лубін гэткі: за канец стальвагі, чы ворчыка с правай стараны над баразной прывязываецца які колечы ланцуг, а другі канец яго прымацовываецца да дышлю у плуга над аткладнёй. Ланцуг цягнецца і прысьцілае лубін, а усьлед за ланцугом скіба закрывае лубін так добра, што ні воднаго каліва ня відаць, хіба толькі у складзе. Ланцуг трэба так папусьціць, каб, аручы, чуць—чуць мог уцекаць с пад скібы.

Гэтаго спосабу я навучыўся у дварох графа Чапскаго; цяпер заўсёды гэтак раблю ў сябе і нічога лепшаго прыдумаць, бадай, нельга, ды і ня трэба.

У каго німа ланцуга, то можна прывязаць кавалак старой, таўставатай вяроўкі.

**Антось Воук.**

# Гадоуля кур.

Цяпер—калі адны не саромяцца прасіць, а другіе ня ўпіраюцца плаціць па капеяк 40—50 за дзесятак яек—ня шкодзіло-б і хіба што варта больш зьвярнуць увагі на гадоўлю кур.

Не такі ўжо вялікі наклад і клопат с курынай гаспадаркай, як гэта можэ зразу паказацца. Адно ўжо тое вельмі важна, што мінае тая ешчэ нідаўная мода ганяцца канешна за загранічнымі, што раз новымі гатункамі якой бы там ня бы жывёлы: чы то

скаціны, чы то сьвіньнеў, чы хоць-бы птаства. Перэканаліся бадай ўсе, што мейсцовые гатункі кожнай жывёлы, здаўна прытасаваўшыся і да тутэйшаго клімату, і да розных іншых тутэйшых варункаў, найтрывалейшые, найздаравейшые, найменш каштоўные, а могуць даваць і добрую карысьць, і добры даход.

Высьцерагацца толькі трэба аднаго: гадуючы які колечы ў сябе дабытак, нельга пушчаць на расплод з аднаго гнезда (адных і тых самых бацькоў) і самцоў, і самак, бо патамство іх—блізкое між сабой па крыві—с пакаленьня у пакаленьне будзе выраджацца і драбнець.

Гэты закон натуры—цьвёрды і сьвяты ня толькі для рознаго дабытку, але і для ўсяго жывога: нават для чэлавека, нават для зерняці...

Хочучы паправіць гатунак якога колечы свайго добытку, прымерам кур, нам трэба даставаць, гандлеваць, чы купляць у бліжэйшых, чы дальшых суседзеў хаця-б пеўнеў, выбіраючы, разумеецца, што найбольшых, найзграбнейшых, найпякнейшых. Пасьля, з новаго ў сябе прыплоду, адбіраць на гадоўлю толькі лепшые штукі, збываючы горшые, бракоўные. Гэткім способам з году ў год гатунак кур у нас будзе што раз лепшы. Але на гэта прышлося-б патраціць не мала часу; каб-жэ хутчэй паправіць гатунак сваіх кур, павінны мы с першаго-ж году купіць дзе на старане добра ўжо знанаго і выпрабаванаго заводу пеўня; калі-ж пеўня дастаць нельга, або трудна, то можна выпісаць хоць яек і падсыпаць пад сваю курыцу Манючыся брацца за гэта, само сабой, трэба ведаць якіе гатункі кур найлепшые.

Гатункаў кур найбольш нясушчыхся ёсьць два: італьскіе—зносяць да 180 яек у год і гамбурскіе—каля 200 яек. Першые—нясуць вялікіе яйкі і самі важуць на фунтаў 5—6; другіе—меншые зносяць яйкі, ды і самі маюць вагі фунты 3-5.

Як італьскіе, так і гамбурскіе куры самі па сабе далікатные і вымагаюць добраго і асобнаго даглёду, дык для нашых вёсак займацца гэтым не варта, але завесьці ў сябе мешанцаў ад іх—вельмі карыстна.

Нашы тутэйшые курачкі прывыкшы, трэба прызнацца, і да холаду, і да голаду, а ўсё-ж такі нясуцца ня згорш, толькі праз лад ужо здрабнелые, і яйкі іх так сама зусім маленькіе. А ў гандлі гэта вялікая розніца, бо хіба недалёкі ўжо той час, калі не на дзясяткі, а на фунты будуць купляць яйкі.

Дык вось, каб дагадавацца лепшаго гатунку кур, нам і трэба дастаць гамбурскаго, чы італьскаго заводу пеўня, тады мешанцы па ім будуць даваць шмат большы даход,—бо і прыплод будзе лепшы, і яйкі буйнейшые, а куры ешчэ больш будуць нясьціся.

Яйкі італьскіх, або гамбурскіх кур, або пеўняў гэтаго гатунку, нядорага можна купіць, чы выпісаць са Смаргоняў. (Адрэс такі: Смаргонь, Віленск. губ. Мінская вул. Надзеі Страшынскай).

Падсыпаць пад курыцу яйкі трэба сьвежые, каторые маюць я больш трох тыднеў; дома, разумеецца, адабраць такіе ня

трудна, але купляючы дзеля заводу на старане, прыходзіцца толькі спадзевацца на сумленьне прадаўца.

Пасьля 4—6 дзён падсыпкі яек, трэба іх перагледзіць. Каторые на сьвет зусім сьветлые, або жоўтаватые, тые будуць баўтунамі.

Заморкі—маюць луску шэрую, або брудна—белую; гледзючы на сьвет—яны цёмные, або шэравата—чорные. Дастаўшы з гнезда, яйкі з заморкамі хутка астываюць. Гэта астываньне можна пазнаць, прыкладаючы іх да кончыку вуха, або носу.

Малые—выходзяць на 20—22-і дзень. Праз першые два дні іх можна не карміць: у сваіх кішэчках яны маюць ешчэ запас жаўтка ад яйка, с катораго вышлі; ім трэба толькі спакой і цяпло.

Карміць на пачатак адным тварагом, або цьвёрда згатаваным яйкам, як гэта найчасьцей робяць нашы гаспадыні—нельга; да гэтай яды трэба ешчэ дадаваць драных крупак, мочаных у параным малаку, рэдкаватае цесто с пшонных вотрубоў, а мест вады—даваць салодкае, або кваснае млека. Не варта толькі зразу прыгатаўляць шмат корму ў запас, бо ён квасьнее і тады вельмі шкодзе курэняткам.

Надта добры і здаровы корм для малых—гэта розная дробна сечаная зеляніна: салата, шчаўе, капуста і т. п. Вельмі ласа ядуць яны і дробна сечаные буракі.

Яду сваю малые курэняты травяць вельмі хутка, дзеля гэтаго трэба іх карміць часта: што 1—2 гадзіны.

Праз тыдні два, можна ўжо даваць менш малака і яек, а прыучаць да грубейшаго корму. На 8—10-ым тыдні курэняты могуць ужо карміцца тым, чым і старые куры, толькі часьцей ешчэ трэба ім даваць яду.

Квактухі з малымі сваімі любяць часта далёка зыходзіць ад дому, дзе і шкоды іншым разам немала наробяць, ды і каршуны, або вароны могуць малых пахапаць. Не раз можна ўбачыць, як нашы гаспадыні, каб курыца не цягалася, прывязываюць яе за нагу на вяровачцэ да плоту, чы дрэва. Па шго-ж яе мучыць, калі без вялікаго заходу і так можна даць рады. Трэба ўзяць якую колечы старую скрынку, чы бочку, накрыць курыцу, а пры нізе паробіць вузкіе дзіркі, цраз каторые маглі-б толькі курэняты ўлазіць і вылазіць. Ешчэ лепш, разумеецца, было-б зрабіць заўчасу—зімой пераносную, бытцам катушок, клетку без дна.

Дарастаючую моладзь, хочучы мець з яе карысьць, трэба добра дагледаць: прыкормліваць, а на нач зачыняць у чыстым, сухім і цёплым мейсцы.

Праз летку нашы куры самі сабе даюць рады і вышуківаюць патрэбны для сябе корм, хоць ўсё-ж ткі трэба па крысе іх прыкормліваць; зусім іншая справа зімой.

Калі мы будзем курыцу карміць толькі бульбай і пазадкамі, як гэта ў нас найчасьцей робіцца, то, разумеецца, ня толькі ня будзе яек, але і кўрыца сама схудае.

Хто хочэ, каб яго куры нясліся зімой, трэба іх так карміць, каб курыца ня толькі магла выжыць сама, але і каб мела с чаго завязываць яйкі.

Дзеля гэтаго мы павінны даваць курам сытную яду і да таго такую, ў каторай ёсьць як раз тое, с чаго складаецца яйко: бялок, тлустасьць і вапна.

Практыкі раюць гэткую рабіць мешаніну: 15 гатаваных сярэдніх бульбін, 20 лотаў вотрубоў, 20 лотаў чэрстваго хлеба, фунт с цьвёрткай лістоў капусты, або кормных буракоў, чы морквы, поў лота крэйды, поў лота солі і бутэльку млека. Усё гэта, добра вымешаўшы, павінна хапіць на раніцу для 10-ці кур. Вечэрам даць па малой жменьцы зерня.

Ніколі не варта даваць курам мешанаго зерня, бо яны павыбіраюць толькі тые, каторые больш ім да успадобы, а рэшта зглуміцца. Лепш даваць у перамешку: аднаго дня—такое, другога—іншае.

Апрача таго—дзянінай—вельмі карысна даваць рэшткі мяса, костную муку, луску ад яек (каторую трэба стаўчы, бо інакш куры прывыкаюць есьці пасьля свае яйкі), вапну і т. п. Трэба так сама прызапасіць на зіму пяску—жвіраку і час ад часу пасыпаць яго курам; аттуль выбіраюць яны дробные каменьчыкі, каторые ім патрэбны, каб лепш перэтравіць сваю яду.

За апошніе часы некаторые гадоўцы кур пачалі практыкаваць зусім новы і танны спосаб корму, і як паказалося вельмі карысны.

Дробную сечку с канюшыны заліваюць вадой і гатуюць, пакуль яна ня зробіцца зусім мягкай; тады на дзьве часьці гэткай сечкі дадаецца адна часьць мякіны, або аржаной мукі і добра вымешаўшы, пакідаюць гэтак на ўсю ноч. К раніцы—яда гатова. Пах гэтаго корму вельмі прыемны і ласа яго ядуць ня толькі сталые куры, качкі, індыкі, гусі, але нават так сама ахвотна есьць яго і падрастаючая птушыная моладзь. Трэба толькі ўважаць, каб гэта мешаніна ня была погуста; дзеля гэтаго, стаўляючы корм на нач, павінна быць у нім столькі вады, што хоць мешаніна і ўцягне ў сябе часьць яе, а ўсё-ж ткі сама будзе ня зусім густая, каб птаству лягчэй было глытаць.

Корм гэткі карысны для птаства дзеля таго, што канюшына багата мае ў сабе вапны і азоту, як раз, значыцца, таго матэр'ялу, які патрэбны для яек. Апрача таго, гэтую яду птаство лёгка травіць і ўсе пажыўные часткі яе ідуць на карысьць; тады як вапна, жвір і інш. служаць больш толькі помачай для травеньня, а на пажытак самага цела—ідзе мала.

Кормячы канюшынай, птушка будзе здаровая, рухевая і лепш нясецца. Нават у летку вельмі карысна карміць кур зялёнай сечанай канюшынай.

У канцы трэба ешчэ зьвярнуць увагу нашым гаспадыням што, хочучы, каб птаство вялося і мець з яго карысьць, трэба добра пільнаваць чыстасьці у пташніках, ня прыгатаўляць шмат

яды ў запас, бо закісьне, зважаць на цяпло і сухасьць, карміць па меней, але часьцей і заўсёды павінна быць сьвежая чыстая вада.

I. С.

# Матэр'ялы на будову.

## 2.

## Гліна.

Гліна—самы танны матэр'ял на будову. Замяніць гліну, дзе яна канешна патрэбна, нічым іншым нельга. Баяцца, што с часам гліны можэ быць недахват,—нечаго: пройдуць тысячы ешчэ гадоў, а яе ня выбяруць. Аграмаднымі слоямі зацягівае яна мейсцам пачынаючы с самога верху, мейсцам глыбей, чы плыцей пад верхнім слоям чорнай, або пешчанай зямлі.

Гатункаў гліны ёсьць некалькі і трэба добра ведаць каторы з ніх да чаго надаецца.

Чыстая гліна (фарфур)—белая, мягкая, трудна разыходзіцца ў вадзе, але пасьля робіцца мягкая, як цесто. З гэтай гліны найбольш робяць пасуду, а дадаўшы да яе буйнога жвіру, муруюць—печы для вываркі жалеза, сталі і т. п. Але такая гліна ў нашым краю не трапляецца; ёсьць толькі падхадзя да яе—глей,—каторы так сама белы, вытрывалы на агонь і дае добрую, моцную пасуду.

Звычайная гліна, якая найчасьцей у нас трапляецца—ў вялізарных залежах бывае чырвонаго, або чырвона—цёмнаго коляру. У ёй меней, чы болей бывае жалеза, пяску і ад гэтаго залежэ яе коляр і вартасьць.

Гліна, ў каторай шмат пяску, лягчэй разыходзіцца ў вадзе і не так трэскаецца. Коляр яе сьветла—чырвоны, на вошчуп—шаршавая, бо мае ў сябе каменьчыкі. Ссыхаецца яна скора і моцна. Такая гліна прыдатна на розные замазкі ў хаце, на печы і на сырую цэглу. Выбіваць ёй ток—нельга, бо венікам лёгка дзярэцца.

Другі гатунак гліны—чырвона—цёмнаго коляру с сінімі кропачкамі і услойкамі. У ёй менш жвіру, а больш тлустасьці (глінazёму); ў вадзе разыходзіцца цяжка, на вошчуп мягкая і сама, як гумалястыка. Капаючы гэткую гліну, яна ломіцпа ў кантовые палачкі. Пры расьціраньні—лепіцца за пальцы і не разсыпаецца, а качаецца ў галачкі. Прыдатна яна на паленую цэглу, пасуду, дахоўку і на ток у гумне, чы хаце. Гэткая гліна доўга трымае ў сябе вільгаць, дык не так скора высыхае, але пасьля трэскаецца, дык на замазку яна не гадзіцца; і там дзе німа песчанай

гліны, а ёсьць толькі тлустая, то да яе, хочучы узяць на замазку, трэба падмешываць пяску, а так сама і крэйды.

На цэглу трэба выбіраць гліну як найтлусьцейшую і каб ані ня было маргелю, або вапенных каменьчыкаў, бо ад іх пры выпаліваньні цэгла патрэскаецца.

Для лепянак выбіраць трэба гліну як найлепшую і найчысьцейшую; дык, капаючы яе з грунту, трэба высьцерагацца, каб ня прымешывалася чорная зямля, бо ад яе гліна пасьля будзе трэскацца. Зрабіўшы лепянку з добрай гліны, сьцены яе, праўда, не так хутка высахнуць, але за тое пасьля стаяць трывалейшые, вада іх ня будзе размываць і не канешна тынкаваць.

На гліна—саламяные будовы і стрэхі трэба выбіраць як найтлусьцейшую гліну,—тады яна моцна будзе трымацца с саломай і не баіцца дажджоў. Каб лепш прыгатаваць такую гліну, трэба зрабіць вось як.

Выкапаць якой патрэбна велічы яму ў зямлі і там, накідаўшы гліны, разводзяць яе вадой; побач трэба прырыхтаваць другую яму і сюды зліць зьверху вядром распушчэную гліну ў першай яме. Праз некалькі дзён, як гліна адстоіцца, а вада крыху высахне, зноў даліваюць туды вады і, добра вымешаўшы, замачываюць салому. Гэткім спосабам гліна робіцца вельмі моцная,— бо тут разбаўтана самая тлустасьць яе.

Даўней гэтак і прыгатаўлялі гліну на цэглу, лепянкі і т. п.; вось дзеля чаго даўнейшые мураваные будовы гэткіе моцные.

Гліну хоць да якой работы капаць трэба не тады, як яна ўжо патрэбна, а за год раней, каб яна, палежаўшы праз зіму, перамерзла; тады гліна будзе мець лепшую ў сябе моц.

Успомню ўжо тут і а гліне на пасуду. Найлепшая да гэтай работы гліна чорная. Яе трэба пераціраць на асобных зробленых для гэтаго тарках, каб ня было каменьчыкоў, ад каторых пасуда трэскаецца.

У нашым краю ёсьць не малые паклады чорнай гліны (як напр. у Міры, Сіняўцэ Мінск. губ.) і то ў лепшым гатунку, але промысел гэты, не зважаючы на добры з яго заработак, стаіць ў нас вельмі нізка.

**Тэхнік Ю—ка.**

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.**

# Кнігі прысланые у рэдакцію:

**1. „Главнѣйшыя насѣкомыя вредящія зерновымъ злакамъ въ средней и южной Россіи“.**

*составилъ Н. В. Курдюмовъ*

(энтомологъ Полтавской сел.-хоз. опытной станціи).

З гэтай кнігі з багатымі рысункамі мы відзім, што больш сотні жучкоў, мушак харчуюцца дабром на полі і псуюць каласы. Бараніцца ад гесенскай мушкі і др. можна толькі заорываючы поле скора пасьля жніва.

2. **Календарь** „Хуторянинъ“ Полтава, належыць да аднаго з лепшых росейскіх сел.-г. календароў. Цікавая ў ім стацьця—як разводзіць стронгі (форэль).

3. **Просо.** агр. Маньковскій изд. „Хуторянина ц. 4 к. Полтава. Проса сеюць менш, бо цяпер менш цаліны. Пробы робленые ў Беларусі с просам удаваліся. Каля м. Зембіна з 2 пудоў бураго проса намалацілі 80 пуд.

---

АД РЭДАКЦІІ.

## Падпісываецца на „Саху“

просім тых, каму кончылася падпіска, бо у сакавіку рэдакція будзе разсылаць **насеньня** гадавым падпісчыкам і выдаваць **зразы** фруктовых дрэў.

Можна падпісацца і адкрыткай, просячы, каб налажылі падпісную плату на першы высланы нумар.

---

**Вульлі новай найлепшай будовы** (Дэдана)

стаяць у Рэдакціі для абгляду. Падпісчыкі могуць зайсьці, распытацца а будове вульля, разгледзіць яго па частках, пазьнімаць меркі і т. п., каб можна было дома самому зрабіць танным спосабам.

---

Вышла з друку і прадаецца ў Рэдакціі **новая беларуская кніжка**: „*Што б не здарылося вытрываю*. **С. Жэромскаго**; *Расказ Сабалы*. **С. Віткевіча**; **Воук**. *Пераплумачыла на беларускую мову* **Зязюля**. Цэна 5 кап., с перасылкай—7.

Хто выпішэ ня менш 10-ці кніжак—за перасылку не плаціць.

Тут-жэ прадаюцца і высылаюцца ўсе беларускіе кніжкі.

---

Прадаецца **Сэрадэля** і **Канюшына**. Адрэс: п. с. Радашковічы Віл. губ. дв. Слабодка Кольчынскаму.

Виленское отдѣленіе

# Русско-Американская Линія

## Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства



**ЕДИНСТВЕННОЕ**

**прямое сообщеніе**

**между**

**ЛИБАВОЙ и ГАЛИФАКСОМЪ**

**(КАНАДА)**

**безъ пересадокъ**

**10 дней пути.**

Русско-Американская Линія Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства является единственнымъ Пароходствомъ, поддерживающимъ прямые безперасадочные рейсы между ЛИБАВОЙ и НЬЮ-ІОРКОМЪ и ГАЛИФАКСОМЪ (Канада) специально для этой линии оборудованными пассажирскими параходами, которые кромѣ своей быстроходности, отли чаются удобствомъ и комфортабельностью пассажирскихъ помѣщеній всѣхъ классовъ.

Переѣздъ изъ ЛИБАВЫ въ НЬЮ-ІОРКЪ или ГАЛИФАКСЪ совершается на первоклассныхъ почтово-пассажирскихъ двухвинтовыхъ параходахъ: „ЦАРЬ“, „КУРСКЪ“ „РОССІЯ“ и „БИРМА“ и продолжается около 10-ти дней.

Параходы отходятъ изъ Либавы регулярно каждыя двѣ недѣли по вторникамъ.

Относительно условій проѣзда и др. подробностей просимъ обращаться письменно или лично непосредственно въ наше Виленское Отдѣленіе, Вильна Конная улица, 4, у Острыхъ Воротъ телефонъ 10—63. Адресъ Главной Конторы: ЛИБАВА, Кургаузскій пр. 2, Собственный домъ.